

# ФЕДЭРЫГА[1]

Жыў даўней нейкі малады сеньёр, што зваўся Федэрыга, прыгожы, статны, гжэчны, дабрадушны, але надта распусны норавам, бо бязмерна любіў ён карты, віно і жанчын, а асабліва карты; ніколі не хадзіў ён да споведзі, а наведваў царкву толькі дзеля таго, каб там награшыць. І вось здарылася так, што Федэрыга, зруйнаваўшы дванаццаць радавітых малойцаў (якія пасля зрабіліся злодзеямі і палеглі без споведзі ў зацятай бойцы з каралеўскімі кандат'ерамі), сам у адначассе страціў усё выйгранае, а ў дадатак і ўвесь свой маярат, апроч невялічкага замка ў пагорках за гарадком Кава, куды ён і адбыў, каб схаваць сваю галечу.

Ужо тры гады жыў ён на самоце, днямі ходзячы на паляванне, а вечарамі гуляючы ў карты са сваім арандатарам. Аднойчы, калі ён вярнуўся дадому з палявання, найудалейшага за ўвесь той час, Ісус Хрыстос з апосталамі пастукаўся ў ягоныя дзверы і папрасіў прытулку. Федэрыга, маючы шчодрую душу, зарадаваўся, бо госці з'явіліся такім днём, калі ён меў чым іх прыняць. Ён правёў іх у сваё жытло, найшчырэйшым чынам запрасіў за стол і прасіў даравацъ яму, калі прыём не будзе належны, бо госці прыйшлі неспадзявана.

Пан Бог наш, які ведаў, што візіт ягоны быў своечасовы, дараваў яму гэтую кроплю пыхі, бачачы ягоную шчырасць. «Мы задаволімся тым, што вы маеце,— сказаў ён.— Але загадайце як мага хутчэй падаць вячэру, бо вось гэты пан вельмі галодны»,— дадаў ён, паказваючы на святога Пятра.

---

[1] Гэтая легенда папулярная ў Неапалітанскім каралеўстве. У ёй, як і шмат у якіх іншых паданнях гэтага краю, можна заўважыць дзіўную сумесь грэчаскай міфалогіі з хрысціянскімі вераваннямі; можна думаць, што яе склалі пад канец Сярэднявечча *(аўт.)*.

Федэрыга не прымусіў упрошваць сябе і, жадаючы падаць гасцям нешта апрача паляўнічае здабычы, загадаў арандатару зарэзаць апошняе казляня, якое і было насаджана на ражон.

Калі вячэра была гатовая і госці селі за стол, Федэрыгу засталося адно пашкадаваць, што віно ягонае было не самае лепшае.

— Васпане,— сказаў ён Хрысту.— Васпане, вельмі б я хацеў вам лепшае падаць віно; але і тое, што ўліваю,— ад сэрца шчырага яно. На гэта Гасподзь наш, пакаштаваўшы віна, сказаў Федэрыгу: «На што вы скардзіцеся? У вас цудоўнае віно, магу спаслацца на гэтага пана (і пальцам паказаў на святога Пятра)». Святы Пятро, паспытаўшы, абвясціў, што яно дзівоснае (proprio stupendo[1]), і папрасіў гаспадара выпіць з імі.

Федэрыга, які лічыў гэта за звычайную ветлівасць, паслухаўся, аднак, апостала; і як жа ж здзівіўся ён, адчуўшы, што віно гэтае далікатнейшае за любое з тых, што ён каштаваў падчас найбольшых удачаў! Здагадаўшыся з гэтага дзіва, што перад ім Усемагутны, ён адразу ж устаў, лічачы, што ён не варты такое святой грамады; але Пан наш загадаў яму сесці, што ён і зрабіў не манерачыся. Пасля вячэры, за якою ім прыслугоўвалі арандатар з жонкаю, Ісус Хрыстос з апосталамі выправіліся ў падрыхтаваны ім пакой.

А Федэрыга застаўся з арандатарам і гуляў у карты, дапіваючы тое, што засталося ад дзівоснага віна.

Наступнага дня святыя падарожнікі выйшлі ў ніжнюю залу да гаспадара сядзібы, і Ісус Хрыстос сказаў Федэрыгу: «Нам вельмі спадабалася, як ты нас прыняў, і мы хочам аддзячыць табе за гэта. Прасі ў нас тры ласкі на свой выбар, мы зробім іх табе, бо мы ўсемагутныя на небе, на зямлі і ў нетрах».

Тады Федэрыга дастаў з кішэні калоду картаў, што заўжды была пры ім, і сказаў:

— Уладару, зрабіце так, каб я заўсёды выйграваў, калі буду гуляць гэтымі картамі.

— Няхай будзе так! — сказаў Ісус Хрыстос (Ti sia concesso[2]).

А святы Пятро, што стаяў блізка Федэрыга, сказаў яму ціхенька:

---

[1] Сапраўды дзівоснае *(іт.)*.
[2] Хай табе дасца *(іт.)*.

— Пра што думаеш ты, няшчасны грэшнік? Табе трэба было б прасіць ва ўладара ўратавання тваёй душы.

— Ат, клопат вялікі,— адказаў Федэрыга.

— Маеш прасіць яшчэ дзве ласкі,— сказаў Ісус.

— Уладару,— сказаў Федэрыга.— Дабрыня ваша бязмежная, то зрабіце, калі ласка, каб кожны, хто ўзлезе на апельсінавае дрэва ля маіх дзвярэй, не мог злезці адтуль без майго дазволу.

— Няхай будзе так! — сказаў Ісус Хрыстос.

На гэтыя словы апостал Пятро штурхнуў локцем свайго суседа і сказаў:

— Няшчасны грэшнік, ты не баішся, што за твае ўчынкі цябе чакае пекла? Дык прасі ва ўладара месца ў святым раі, ты яшчэ маеш час...

— Няма чаго спяшацца,— адказаў Федэрыга, адсоўваючыся ад апостала. А Гасподзь наш спытаўся:

— Якую ты хочаш трэцюю ласку?

— Я б хацеў,— адказаў ён,— каб кожны, хто сядзе на гэты ўслонік у кутку ля каміна, не мог устаць з яго без майго дазволу.

Гасподзь наш, задаволіўшы гэтае жаданне, як і два першыя, выправіўся са сваімі вучнямі ў дарогу.

Апошні апостал яшчэ не выйшаў за дзверы, а Федэрыга, хочучы выпрабаваць сілу сваіх картаў, паклікаў арандатара і згуляў з ім партыю, не сочачы за гульнёю. Ён выйграў яе лёгка, таксама, як другую і трэцюю. Тады, пераканаўшыся ў сваёй удачлівасці, ён паехаў у горад і спыніўся ў найлепшым пакоі найлепшага гатэля. Чутка пра ягоны прыезд разышлася вокамгненна, і былыя ягоныя супольнікі ў гулянках тлумам прыйшлі наведаць яго.

— Мы думалі, што ты знік назаўжды,— сказаў дон Джузэпэ.— Казалі, што ты зрабіўся пустэльнікам.

— Праўду казалі,— адказаў Федэрыга.

— А што гэта ты рабляў тыя тры гады, што мы цябе не бачылі? — разам спыталіся ўсе астатнія.

— Маліўся, браты мае,— адказаў Федэрыга набожна; потым выцягнуў з кішэні калоду картаў, якую ён дбайна захоўваў, і дадаў: — А вось мой малітоўнік.

Гэты адказ выклікаў выбух смеху, усе былі ўпэўненыя, што Федэрыга выправіў сваё становішча за кошт менш удалых гульцоў, чым тыя, з якімі ён сустрэўся зараз і якія прагнулі зруйнаваць яго другі раз. Некаторыя, не жадаючы больш чакаць, хацелі запрасіць яго за гульнёвы стол, але Федэрыга папрасіў іх адкласці гульню на вечар і паклікаў

грамаду ў залу, у якую, паводле ягонага загаду, прынеслі цудоўны абед, які зарадаваў усіх.

Абед гэты быў шмат весялейшы за вячэру з апосталамі; што праўда, там пілі адно мальвазію і лакрыму, але бяседнікі, за выключэннем аднаго, не каштавалі лепшых вінаў.

Яшчэ да прыходу гасцей Федэрыга набыў калоду картаў, цалкам падобных на першыя, каб пры патрэбе можна было падмяніць адны на другія і, прайграючы адну гульню з трох, адвесці ад сябе ўсялякія падазрэнні. Адну калоду ён паклаў справа ад сябе, другую — злева.

Паабедаўшы, высакародны хаўрус усеўся за зялёным сукном. Спачатку Федэрыга паклаў на стол звычайныя карты і прызначыў невысокія стаўкі на ўсю гульню. Хочучы захапіцца гульнёю і праверыць свае сілы, ён пастараўся як мага лепей згуляць дзве першыя партыі, але прайграў абедзве, не без прыхаванае прыкрасці. Тады ён загадаў прынесці віна і скарыстаў момант, калі пераможцы пілі за свае мінулыя і будучыя поспехі, каб адною рукою схаваць звычайныя карты, а другою пакласці на іхняе месца чарадзейныя.

Калі началася трэцяя партыя, Федэрыга, што ніяк не сачыў за гульнёю, меў магчымасць паназіраць, як гуляюць іншыя, і ўбачыў, што яны шальмуюць. Гэтае выкрыццё моцна ўзрадавала яго. З гэтага моманту ён мог са спакойным сумленнем вычышчаць кішэні сваіх супрацоўнікаў. Яго зруйнавалі не ўмельствам, не ўдалаю гульнёю, а махлярствам, значыцца, ён мог вышэй цаніць сваю сілу, і гэтае меркаванне апраўдвалася ягонымі былымі поспехамі. Павага да сябе (і што толькі не жывіць яе!), упэўненасць у помсце і выйгрышы — вось тры пачуцці, мілыя сэрцу мужчыны. Федэрыга адчуў іх усе разам; але, думаючы аб мінулым сваім шанцаванні, ён згадаў пра дванаццаць радавітых юнакоў, за кошт якіх ён узбагаціўся. І, перакананы, што гэтыя юнакі былі адзіныя сумленныя гульцы, з якімі яму даводзілася мець справу, ён упершыню пакаяўся, што выйграў у іх. Змрочная хмара закрыла на ягоным твары промні бліскучае радасці, і ён глыбока ўздыхнуў, выйграўшы трэцюю партыю.

За ёю ішло мноства іншых, большасць з якіх Федэрыга пастараўся выйграць, такім чынам, выйгрыш за гэты першы вечар дазволіў яму заплаціць за абед і за кватэру на месяц наперад. На той дзень ён толькі таго й хацеў. Расчараваныя прыяцелі ягоныя паабяцалі, развітваючыся, вярнуцца заўтра.

Назаўтра і ва ўсе наступныя дні Федэрыга выйграваў і

прайграваў так спрытна, што за кароткі час здолеў сабраць значную суму і ніхто не здагадаўся пра сапраўдную прычыну ягонае ўдачы. Тады ён пакінуў гатэль і пасяліўся ў вялікім палацы, дзе час ад часу ладзіў цудоўныя святы. Найпрыгажэйшыя жанчыны спрачаліся за ягоныя позіркі, найдалікатнейшыя віны падаваліся на яго стол, Федэрыгаў палац славіўся як асяродак асалод.

Год Федэрыга гуляў асцярожна і нарэшце вырашыў здзейсніць сваю помсту да канца, зруйнаваўшы галоўных магнатаў у краіне. Дзеля гэтага, абмяняўшы на каштоўнасці большую частку свайго золата, ён праз тыдзень пасля таго запрасіў іх на надзвычайнае свята, на якое ён склікаў найлепшых музыкаў, ліцадзеяў і якое мелася скончыцца грандыёзнаю гульнёю найбагацейшых. Каму не ставала грошай — пазычылі іх у жыдоў, іншыя прынеслі ўсё, што мелі — і ўсё пусцілі на вецер. Федэрыга выехаў уночы, везучы з сабою золата і каштоўнасці.

З гэтага часу ён зрабіў для сябе правілам гуляць боскімі картамі адно з несумленнымі гульцамі, лічачы, што ён дастаткова ўдачлівы, каб гуляць з іншымі простымі картамі. Такім чынам ён аб'ездзіў усе гарады на зямлі, усюды гуляючы і заўжды выйграючы, карыстаючыся ў кожнай краіне тым, што было ў ёй найлепшага.

І, аднак, успамін пра дванаццаць ахвяр няспынна хваляваў яго розум і атручваў яму ўсю радасць. Нарэшце, аднаго дзіўнага дня, ён вырашыў вызваліць іх альбо загінуць разам з імі.

Прыняўшы такое рашэнне, ён выправіўся ў апраметную, маючы кій у руцэ і торбу за плячыма, з ім пабегла яго ўлюбёная сучка-хорт, што звалася Марчэзела. Дабраўшыся на Сіцылію, ён узлез на гару Жыбэль і спусціўся ў кратэр вулкана, што так далёка заглыбляўся ў зямлю, як сама гара высока ўзносілася над П'емонтам. Адтуль, каб дайсці да Плутона, трэба было перайсці двор, які ахоўваў Цэрбер. Пакуль Цэрбер заляцаўся да Марчэзелы, Федэрыга без цяжкасцяў прайшоў двор і пастукаў у Плутонавы дзверы.

Калі яго прывялі да караля цемры, той спытаўся:

— Хто ты?

— Я гулец Федэрыга.

— Якога ліха з'явіўся сюды?

— Плутон, калі ты лічыш, што першы гулец на зямлі варты згуляць з табою ў карты, то прымі маю прапанову: мы будзем гуляць столькі, колькі табе захочацца; калі я прайграю хоць раз, мая душа будзе належаць табе, як і тыя,

што жывуць у тваіх уладаннях; але калі я выйграю, я буду мець права выбіраць сярод падначаленых табе адну душу за кожную выйграную партыю і змагу забраць іх з сабою.

— Няхай будзе так,— сказаў Плутон і папрасіў калоду картаў.

— Маю з сабою,— адразу сказаў Федэрыга, дастаючы з кішэні дзівосныя карты, і яны пачалі гуляць.

Федэрыга выйграў першую партыю і папрасіў у Плутона душу Стэфана Пагані, аднаго з тых дванаццаці, што ён хацеў уратаваць. Яму адразу ж аддалі яе; атрымаўшы душу, ён паклаў яе ў сваю торбу. Ён таксама выйграў другую партыю, пасля трэцюю, і так да дванаццаці, прымушаючы штораз аддаваць яму душы тых, што яго цікавілі, і кладучы іх у торбу. Калі ён сабраў увесь тузін, то прапанаваў Плутону працягваць гульню.

— З ахвотаю,— сказаў Плутон (якому, аднак, надакучыла прайграваць).— Але давай выйдзем на хвіліну, тут нешта дрэнна пахне.

Ён, відаць, шукаў зачэпкі, каб пазбыцца Федэрыга, бо адно той выйшаў са сваёю торбай і душамі, як Плутон што меў сілы закрычаў, каб за ім замкнулі дзверы.

Федэрыга зноў прайшоў праз двор апраметнае, але Цэрбер не заўважыў яго, зачараваны сучкаю, і з цяжкасцю дабраўся да верхавіны гары Жыбэль. Тады ён паклікаў Марчэзелу, якая хутка яго дагнала, і рушыў да Месіны, так узрадаваны сваёю духоўнай перамогай, як ніколі не радаваўся з мірскіх поспехаў. Явіўшыся ў Месіну, ён сеў на карабель, вярнуўся на кантынент, каб правесці рэшту жыцця ў сваім старасвецкім замку.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

(Мінула некалькі месяцаў, і Марчэзела прывяла на свет вывадак маленькіх пачвараў, некаторыя з іх мелі ажно па тры галавы. Іх усіх утапілі.)

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Праз трыццаць год (а Федэрыгу было тады семдзесят) Смерць з'явілася да яго і загадала звесці рахункі са сваім сумленнем, бо надышоў яе час.

— Я гатовы,— сказаў смертнік.— Але да таго, як забярэш мяне, о Смерць, прашу цябе, падай мне плод з дрэва, што заценяе мае дзверы. Дай мне гэтую маленькую радасць, і я памру задаволены.

— Калі ты хочаш адно гэтага,— сказала Смерць,— я задаволю цябе.

І яна ўзлезла на апельсінавае дрэва, каб дастаць апель-

сін. Але, захацеўшы злезці, яна не здолела варухнуцца; Федэрыга не дазваляў.

— Ах, Федэрыга, ты мяне падмануў! — закрычала яна.— Цяпер я пад тваёю ўладай. Але вызваль мяне, я абяцаю табе дзесяць год жыцця.

— Дзесяць год! Такая драбніца! — сказаў Федэрыга.— Калі хочаш злезці, мая даражэнькая, будзь трошкі шчадрэйшая.

— Я дам табе дваццаць.

— Ты смяешся з мяне!

— Я дам табе трыццаць.

— Гэта амаль трэцяя частка таго, што я хачу.

— Дык ты хочаш жыць сто год?

— Якраз столькі, мая дарагая.

— Федэрыга, гэта ўжо занадта.

— Ну што ты хочаш! Я люблю жыццё.

— Добра, хай будзе сто год, што тут зробіш,— сказала Смерць і адразу ж адчула, што можа злезці.

Адно яна пайшла, Федэрыга падняўся, цудоўна сябе адчуваючы, і пачаў новае жыццё з сіламі маладзёна і спрактыкаванасцю старога. Усё, што вядома пра ягонае новае жыццё, дык гэта, што ён і надалей па-дзівацку задавольваў свае жаданні, у прыватнасці плоцкую прагу, чынячы трохі дабра, калі з'яўлялася на тое нагода, але думаючы пра ўратаванне душы не болей, чым падчас першага жыцця.

Сто год мінула, Смерць зноў пастукала ў ягоныя дзверы і застала яго ў ложку.

— Ты гатовы? — спыталася яна.

— Я паслаў па спавядальніка,— адказаў Федэрыга.— Пасядзі ля агню, пакуль ён прыйдзе. Мне толькі адпусцяць грахі, і мы рушым з табою ў вечнасць.

Смерць, што была асобаю добраю, села на ўслонік і прасядзела цэлую гадзіну, а святар усё не ішоў. Нарэшце ёй надакучыла, і яна сказала гаспадару:

— Стары, ты й другі раз не паспеў уладкаваць свае справы за сто год, што мы з табою не бачыліся?

— Дальбог, я меў багата іншых справаў,— сказаў стары, іранічна ўсміхаючыся.

— Добра! — сказала Смерць, абражаная ягоным нявер'ем.— Ты больш і хвіліны не пражывеш!

— Ат! — сказаў Федэрыга, пакуль яна дарэмна спрабавала падняцца.— Я са свайго вопыту ведаю, што ты занадта згаворлівая, каб пашкадаваць мне яшчэ некалькі год адтэрміноўкі.

— Некалькі год, нягоднік! (Яна марна намагалася адсунуцца ад каміна.)

— Пэўна ж, але гэтым разам я не буду такі патрабавальны, а як я больш не хачу перажываць старасць, то на трэці раз мяне задаволяць і сорак год.

Смерць пераканалася, што яна не можа адчапіцца ад услоніка, як некалі ад дрэва, што яе трымае звышнатуральная сіла, але, загневаная, яна нічога не хацела даваць.

— Я ведаю, як наставіць цябе на розум,— сказаў Федэрыга і загадаў кінуць у агонь тры бярэмкі дроваў. Праз хвіліну ў каміне забушавала полымя, прычыняючы Смерці нязносныя пакуты.

— Злітуйся, злітуйся! — закрычала яна, адчуваючы, што яе старыя косці пачынаюць гарэць.— Абяцаю табе сорак год здароўя.

На гэтыя словы Федэрыга зняў чары, і Смерць уцякла, напалову спечаная.

Належны час мінуў, і яна вярнулася па Федэрыга, што чакаў яе гатовы, з торбаю за плячыма.

— Гэтым разам твой час надышоў,— сказала яна, хутка ўваходзячы.— Няма чаго марудзіць. Але нашто табе торба?

— У ёй душы дванаццаці гульцоў — маіх сяброў, якіх я некалі вызваліў з апраметнае.

— Няхай яны вяртаюцца туды з табою разам! — сказала Смерць і, схапіўшы Федэрыга за валасы, памкнулася ў неба. Недзе апоўдні яна апусцілася са сваёю здабычай у бездань гары Жыбэль. Наблізіўшыся да брамы апраметнае, яна стукнула тры разы.

— Хто там? — спытаўся Плутон.

— Гулец Федэрыга,— адказала Смерць.

— Не адчыняйце,— закрычаў Плутон, адразу згадаўшы пра дванаццаць прайграных партыяў.— Гэты махляр спустошыць мае ўладанні!

Як Плутон адмовіўся адчыніць, то Смерць панесла палонніка да брамы чыстца, але вартавы анёл забараніў яму ўваходзіць, даведаўшыся, што ён у стане смяротнага граху. На вялікі жаль Смерці, якая моцна гневалася на Федэрыга, яна мусіла несці яго да райскіх краёў.

— Хто ты? — спытаўся святы Пятро ў Федэрыгі, калі Смерць прывяла яго да ўвахода ў рай.

— Той, што калісьці прымаў вас,— адказаў той,— і частаваў паляўнічым здабыткам.

— І ты наважваешся паўстаць тут у такім стане? — закрычаў святы Пятро.— Ці ты не ведаеш, што шлях на неба

закрыты табе падобным? Ты, няварты нават чыстца, шукаеш месца ў раі?

— Святы Пятро,— сказаў Федэрыга,— хіба так прымаў я вас, калі вы з вашым найсвятшым настаўнікам год сто восемдзесят таму прыйшлі прасіць маёй гасцціннасці?

— Усё гэта добра,— зноў сказаў святы Пятро сярдзіта, але ўжо трохі мякчэй.— Але сам я не магу пусціць цябе. Пайду раскажу Ісусу Хрысту пра твой прыход, пабачым, што ён скажа.

Гасподзь наш, папярэджаны, з'явіўся да райскае брамы і ўбачыў, што Федэрыга ўкленчыў на парозе, а дванаццаць душ стаяць побач з ім, па шэсць з кожнага боку. Тады, ахоплены спачуваннем, ён сказаў Федэрыгу:

— Добра, ты яшчэ праходзь. Але пусціць гэтыя дванаццаць душ, месца якім у пекле, не дазволіла б мне сумленне.

— Што вы, Пане,— сказаў Федэрыга.— Але ж калі я меў гонар прыняць вас у сваім доме, хіба не было з вамі дванаццаці спадарожнікаў, якіх я, як і вас, пастараўся прыняць як мага лепей?

— Няма рады працівіцца гэтаму чалавеку,— сказаў Ісус Хрыстос.— Уваходзьце, калі ўжо прыйшлі, але не ўздумайце хваліцца ласкаю, што вам зроблена: то быў бы благі прыклад.

### ФЕДЭРЫГА

Упершыню ў «Revue de Paris» 15 лістапада 1829 года. Увайшла ў зборнік «Мазаіка».

С. 45. *Мальвазія і лакрыма-хрысці* — знакамітыя гатункі вінаў. Першае вырабляюць з варанага мускату, другое даюць вінаграднікі, што растуць каля падэшвы Везувія.

С. 46. *Гара Жыбэль* (ад араб. джэбэль — гара) — так называюць Этну.